

# Беларус


БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ —
БЕЦЕ МЯЧАМІ!
НЕ ДАВАЙЦЕ
ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

*Максім Багдановіч*
*(1891-1991)*

**№ 389 Красавік 1992**
Год. выд. XLI

**BIELARUS** / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50


# САКАВІКОВЫЯ ПРЫВІТАНЬНІ


DANA ROHRABACHER
42ND DISTRICT, CALIFORNIA

WASHINGTON OFFICE:
1039 LONGWORTH HOUSE OFFICE BUILDING
WASHINGTON, DC 20515-0542
(202) 225-2415 FAX: (202) 225-0145

DISTRICT OFFICE:
16162 BEACH BOULEVARD, SUITE 304
HUNTINGTON BEACH, CA 92647-3813
(714) 847-2433 (310) 325-0668
FAX: (714) 847-5153




**Congress of the United States**
**House of Representatives**


COMMITTEES
SCIENCE, SPACE, AND TECHNOLOGY
SUBCOMMITTEE ON TECHNOLOGY AND COMPETITIVENESS
SUBCOMMITTEE ON SPACE
DISTRICT OF COLUMBIA
REPUBLICAN CHAIRMAN, SUBCOMMITTEE ON FISCAL AFFAIRS AND HEALTH
SUBCOMMITTEE ON JUDICIARY AND EDUCATION
REPUBLICAN RESEARCH COMMITTEE
CO-CHAIRMAN, TASK FORCE ON THE STRATEGIC DEFENSE INITIATIVE
CO-CHAIRMAN, TASK FORCE ON TERRORISM AND UNCONVENTIONAL WARFARE


I take this opportunity to congratulate Belarus on its proclamation of independence. I have always supported the right of all peoples to self-determination and the independence of republics of the former Soviet Union, including Belarus.

This year's observance of the 74th anniversary of the proclamation of independence of the Belarusan Democratic Republic in 1918 is especially appropriate considering that Belarus has once again reaffirmed its independence and extricated itself from the shackles of seven long decades of Soviet communist domination.

I commend the Bush administration for recognizing the independence of Belarus, and I laud and extend my support to those people in Belarus who are making efforts to implement genuine democratic institutions in their recently independent homeland.

It is my sincere hope that the United States will go beyond mere recognition of Belarus' independence by also extending support to those in Belarus who are striving to instill democratic values in their country's political system.

Sincerely,

March 26, 1992

Dana Rohrabacher
Dana Rohrabacher
Member of Congress

THE WHITE HOUSE
WASHINGTON

March 27, 1992

I am pleased to send greetings to all Byelarusian Americans as you celebrate the 74th anniversary of the Byelarusian Democratic Republic's declaration of independence.

Shortly after Byelarus declared its independence in 1918, the national government was overthrown by communist forces. Today, we share your joy as communism has withered and self-government has been rightfully restored to your ancestral country.

This is a wonderful opportunity to reflect on the shared principles that unite the peoples of Byelarus and the United States in freedom, as well as our ties of culture and kinship. While many challenges lie ahead for Byelarus, I am confident that the great love of freedom and independence which sustained the people of Byelarus through more than seven decades of totalitarian rule will guide the peaceful transition to democracy that is now underway.

Barbara and I send best wishes to all who celebrate this historic occasion -- the liberation of Byelarus. God bless you.

George Bush

## ДАРАГІЯ СУАЙЧЫНЬНІКІ!

Сьвята нашай Незалежнасьці — 25-га Сакавіка — праз гады мацуе наш дух. У 1918 годзе нашая дзяржава вярнулася на палітычную карту сьвету, і ніякія варожыя сілы, як не намагаліся — ня здолелі сьцерці Беларусь з гэтае карты — сьцерці праўду з памяці народу.

Праўда аднаўляецца. Беларусь аказалася гатоваю прыняць выклік гісторыі — і ў канцы XX-га стагодзьдзя вярнула страчаную незалежнасьць. Да гэтага вяло змаганьне сьведамых беларускіх сілаў, згуртаваных з 1988 году ў Беларускім Народным Фронце.

У нашай працы, у нашым змаганьні на Бацькаўшчыне мы адчувалі і адчуваем падтрымку беларускай эміграцыі, якая захавала вернасьць беларускім нацыянальным і дзяржаўным традыцыям, якая ёсьць для ўсіх нас гожым узорам ахвярнага патрыятычнага служэньня.

Віншуем вас, дарагія сябры, са сьвятам Незалежнасьці. Зычым шчасьця й радасьці, моцы духу й аптымізму на шляху да нашае агульнае мэты — АДРАДЖЭНЬНЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ.

**Зянон Пазьняк**
**Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**
**Вінцук Вячорка**
**Сакратар Управы БНФ «Адраджэньне»**
**Менск, 20 сакавіка 1992 г.**

## ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

Перш за усё перадаю прывітаньне нашых суродзічаў зь Беларусі — ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Дарагія мае суродзічы, сёньня Вы сабраліся тут, каб адзначыць веканомную падзею Акту 25 Сакавіка, які вызначыў шлях нашага змаганьня за Незалежную й Сувэрэнную Беларусь. Ідэя Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі вынашаная нашым народам не замерла. І мы дачакаліся, што летась 25 жніўня Беларусь сталася незалежнай.

Настае новы лад і адначасна вялікае выпрабаваньне жыцьцяздольнасьці нашага народу. Былі й раней пагрозы зьнікненьня нам, як народу, але наш народ заўсёды знаходзіў шлях выхаду. Верым і моцна верым, што наш народ знойдзе выхад і цяпер, а зарукай ёсьць беларуская сьвядомасьць нашай універсытэцкай моладзі, нашай інтэлігенцыі.

Працэс адраджэньня Беларусі, яшчэ не закончаны. Няхай кожны з Вас тут прысутны, зь вераю ў поўным пераканаваньні, упарта дзейнічае, каб нашыя шляхотныя надзеі споўніліся. ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**25 сакавіка 1992 г.**
**Таронта, Канада.**

**З Божай ласкі пакорны мітрпаліт МІКАЛАЙ**
**Першы Ярарх БАПЦ.**


ALFONSE M. D'AMATO
NEW YORK


**United States Senate**
WASHINGTON, DC 20510-3202

**I am pleased to observe the 74th anniversary of the proclamation of independence of the Belarusan state. On March 29, 1918, the Belarusan state declared itself independent of the Soviet Union. Now, after 74 years of struggle, Belarus is free and unshackled.**

With the fall of Soviet communism, nations long enslaved in the yoke of tyranny became free. One by one, the nations of the former Soviet Union declared their freedom. Belarus too, fulfilled the proclamation of 1918, after so many years of oppression.

Now, Belarus is free to express the true ideals of democracy and liberty. Now, the people of Belarus can live up to the proclamation of their grandfathers. With a dedication to freedom and an eye on the achievements of the past, I am sure that freedom will long reign in this ancient land.

You have my every wish for prosperity and well-being in your future, which I am sure will be bright and clear. Communism is now dead, long live Belarus.

Sincerely,

March 19, 1992

Alfonse M. D'Amato
United States Senator


BILL BRADLEY
NEW JERSEY


**United States Senate**
WASHINGTON, DC 20510-3001

I join you today in celebration of the 74th anniversary of the 1918 proclamation of independence of the Belarusan Democratic Republic. The decision by the Belarusan Supreme Soviet to declare independence on August 25, 1991 was the first important step towards a truly independent, truly democratic Belarus but more work needs to be done.

As we all know, the specter of Communism still looms large in Belarus; the ex-Communist Supreme Soviet is still the focal point of power. If Belarus is to make significant progress--in democracy, in human rights, in the global economy--it will need to move beyond its Communist-era political structure and towards a democracy in which all Belarusans have an equal say.

The effort of organizations such as the Byelorussian-American Association will be an important element in ensuring that Belarus regains the democracy which it once had. I look forward to working with your organization in the future to achieve that goal.

Sincerely,

March 29, 1992

Bill Bradley

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**РЭФЭРЭНДУМ БАЙКАТУЕЦЦА БЫЛЫМ ПАРТЫЙНЫМ, А СЁНЬНЯШНІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ АПАРАТАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ!!!**

**Сабрана панад 440,000 тысячаў подпісаў у падтрымку рэфэрэндуму, але Вярхоўны Савет рэспублікі адвалакае і не дае ходу рэфэрэндуму. Аб гэтым павінен ведаць кажны амэрыканскі палітык. І наша справа — шырака гутарыць аб махінацыях былое, а на Беларусі жывучае сёньня партыйна-камандная сыстэмы.**

**ВОЛЯ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ — РЭФЭРЭНДУМ — і гэта павінна быць ужыцьцёўлена.**

## ЛЯВОН ШУРАК У ЭТНІЧНАЙ РАДЗЕ НЬЮ-ДЖЭРЗІ



*Лявон Шурак з Губэрнатарам штату Ньюджэрзі Джымам Флёрыё.*

Сп. Лявон Шурак быў прызначаны губэрнатарам у Штатную Этнічную Раду рэпрэзэнтаваць беларусаў штату Нью-Джэрзі. 14-га лютага сёлета адбылася урачыстая прысяга новых сяброў Рады у Штатным будынку ў Трэнтане. Жадаем новаму Раднаму посьпехаў у працы.

## ДЭЛЕГАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ У ГУБЭРНАТАРА НЬЮ-ДЖЭРЗІ



*Фота Алега Дубягі*

16 красавіка сёлета прыняў дэлэгацыю беларускіх арганізацыяў у штаце Нью-Джэрзі Губэрнатар штату Джым Флёрыё. Губэрнатар Флёрыё фармальна ўручыў дэлегацыі Праклямацыю прысьвечаную дню 25-га Сакавіка, калі Беларусь абвесьціла сваю незалежнасьць у 1918 годзе. Губэрнатар адзначыў, што гэтая падзея была сілай, якая прывяла беларускі народ да аднаўленьня незалежнасьці і дэмакрацыі сяньня. Копіі праклямацыяў былі высланы Беларускім арганізацыям. Губэрнатар Флёрыё падтрымліваў справу незалежнасьці й свабоду для Беларусі даўнавата: калі ён быў сябрам Амэрыканскага Кангрэсу, ды часта выступаў у Кангрэсе ў гэтай справе.

У знак удзячнасьці за яго падтрымку беларускай справе дэлегацыя ўручыла Губэрнатару копію кнігі «Беларуская Дзяржаўнасьць», напісанай Вітаўтам і Зорай Кіпель. Кнігу губэрнатар перадасьць у Бібліятэку Штату.

У дэлегацыі былі прадстаўнікі беларускіх грамадзкіх, царкоўных і палітычных арганізацыяў.

**Р. Б.**

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў КАТАЛІЦКІХ СЬВЯТЫНЯХ У БЕЛАРУСІ

Сярод беларускай эміграцыі часамі бытуе памылковы пагляд што да стану беларускай мовы ў каталіцкіх сьвятынях у Беларусі. Ня гледзячы на ўсе перасьледы й перашкоды варожых сілаў, беларускія патрыёты-сьвятары адпраўляюць багаслужбы і выдаюць рэлігійную літаратуру па-беларуску.

Па-беларуску ў каталіцкай царкве адпраўляе імшы ў Вішневе, у Беларусі, ужо з 60-70-х гадоў, рыма-каталіцкі сьвятар а. Уладзіслаў Чарняўскі. Палякі за гэта робяць яму прыкрасьці, ды ён памятаючы словы Хрыста: «Шчасьлівыя вы, якіх прасьледуюць і кажуць усялякую няпраўду на вас дзеля мяне...» — ён спакойна й натужліва прадаўжае сваю справу для добра беларускага народу.

У 80-х гадох а. Чарняўскі прыехаў да айца Аляксандра Надсона, Апостальскага Візытатара для Беларусаў, у Англію ў справе выданьня Сьвятой Імшы ў перакладзе на беларускую мову. І гэтак цяпер перад мною ляжыць выданьне: **Парадак Сьвятой Імшы. Лёндан — 1988-Вішнева.** На другой бачыне: **Парадак Сьвятой Імшы з народам Для беларусаў каталікоў Рымскага абраду. Беларускі тэкст зацьверджаны Апостальскай Сталіцай.** На трэцяй бачыне ліст зацьверджаньня палаціне падпісаны Прэфэктам Paulus Augustynus Card. Mayer, osb. і сакратаром Archiep. tit. Voncariensis, Vergilius Noe. Беларускі тэкст Сьв. Імшы займае 35 бачын.

У сакавіку 1990 году, Айцец Аляксандр Надсон першы раз паехаў, з мэдычнымі запасамі для ахвяраў Чарнобылю, у Менск. Прыехаў ён у суботу, а ў нядзелю адслужыў сьв. Літургію ў Кальварыйскім касьцёле ў Менску пабеларуску. Гэтую падзею трэба лічыць гістарычнай, бо была гэта ў Беларусі перша пасьля 150-ці год — ад часу ліквідацыі царскім урадам у 1839 годзе Вуніі, — каталіцкая багаслужба ўсходняга абраду, пры чым, бязумоўна-ж, па-беларуску.

Айцец Надсон ужо пяць разоў быў у Беларусі. І служыў ён кожны раз багаслужбы па-беларуску ў каталіцкіх сьвятынях: у Менску, у Гомлі, Магілёве, Горадні, Баранавічах і ў Старых Дварах. Апрача гэтага прыватна там, дзе гасьціў.

Рыма-каталіцкія багаслужбы адпраўляюцца па-беларуску **штодзённа:** ў Нясьвіжы, у Наваградку, у Мёрах, у Травах. У Мёрах ксёндз а. Пэтрайціс — летувіс. Ён спэцыяльна навучыўся па-беларуску, каб для беларусаў служыць у іхняй роднай мове. У іншых — вышэй пералічаных мясцох — сьвятары каталікі-беларусы. Айцец Янка Матусевіч — каталік усходняга абраду.

У Менску ў касьцёле Сьвятога Роха **кожнай раніцы** а 8-й гадзіне, малады, гадоў 25, беларускі сьвятар а. Міхась Сапель, рыма-каталік, адпраўляе багаслужбы па-беларуску. Там ёсьць і беларускі каталіцкі дыякан. І як бы там цяжка ня было, стараньнем патрыётаў каталікоў, у Беларусі **кожны дзень** у хрысьціянскіх сьвятынях узносяцца да Бога малітвы **ў беларускай мове.**

У Менску й у Гомлі працуюць і нядзельныя школкі навучаньня закону Божага, заснаваныя айцом Аляксандрам Надсонам для дзяцей каталікоў усходняга абраду. Падручнік, якім карыстаюцца настаўнікі закону Божага й вучні — гэта кніжка аб'ёмам 65 бачын: **«Наша Вера; кароткі катэхізм хрысьціянскай навукі для Беларускаў Каталікоў».** Катэхізм гэты, выдавецтва — «Царква ў Патрэбе» выданы ў Гішпаніі ў 1990 годзе тыражом 30 тысяч (ці 50-ці?); цяпер шырака пашыраецца ў Беларусі. Кніжку гэтую можна набыць і ў аўтара гэтых радкоў у Канадзе. Цана яе 10.00 даляраў.

Стараньнем а. Аляксандра Надсона арганізацыя «Царква ў Патрэбе» у Нямеччыне выдала біблію для дзяцей на беларускай мове **«Бог гаворыць да сваіх дзетак».**

Бясспрэчна, што сытуацыя беларускай каталіцкай царквы, ці то ўсходняга ці заходняга абраду, у Беларусі вельмі цяжкая, так як цяжкой ёсьць і справа здабыцьця фактычнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Здабудзем незалежнасьць Беларусі — здабудзем незалежнасьць і беларускай царквы. Памагай нам Божа!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## ВЕЧАР У ФУНДАЦЫІ КРЭЧЭЎСКАГА



*Вітае гасьцей сп. Антон Шукелойць*

Візыт міністра замежных спраў Беларусі Пётры Краўчанкі і дыплёматаў зь Беларускай Місіі пры ААН у Фундацыю Крэчэўскага, у першую чаргу гэта адзнака новага падыходу існуючага ўраду Рэспублікі ў дачыненьні да беларускай эміграцыі — гэта ліквідацыя тых ідэялягічных бар'ераў, што існавалі аж ад самага пачатку нараджэньня савецкае ўлады, гэта акт, які палажыў у падмурак дачыненьняў ураду Беларусі з эміграцыяй колькі цаглінак, хоць і невялікіх, але важкіх.

Сустрэча прадстаўніка ўраду Беларусі з амэрыканцамі беларускага паходжаньня мела сваю прагісторыю, без якое наўрад ці вечар 21-га сакавіка адбыўся-б.

На працягу апошніх двух гадоў Пётра Краўчанка, будучы міністар замежных спраў, у часе сваіх візытаў у Злучаныя Штаты, пры розных нагодах, ці то ўрачыстае мерапрыемства, ці то прыватная гутарка, шукаў зьліжэньня зь беларускімі эмігрантамі, шукаў наладжаньня кантактаў, супрацоўніцтва ў бізнэсе, займаўся пошукамі ўзаемапаразуменьня — гэта й паспрыяла ладжаньню вечару. Ня менш напружана й пасьпяхова займаўся гэтым у ЗША Генадзь Бураўкін, галава беларускай місіі пры ААН.

Вітаў гасьцей старшыня БАЗА сп. Антон Шукелойць.

Усёдараваньне, узаемапаразуменьне, пашырэньне супрацоўніцтва ўладаў на Бацькаўшчыне з эміграцыяй на Захадзе — менавіта ў гэтым трэба бачыць станоўчы вынік сустрэчы. Усё гэта прадыктаванае суровай эканамічна-палітычнай сытуацыяй на Беларусі, у дэталях, пра якую не сароміўся гаварыць і сп. Краўчанка і дэпутат Парлямэнту рэспублікі Уладзімер Заблоцкі, які быў у Нью-Ёрку праездам. Дарэчы, у залі прысутнічаў таксама і прэзыдэнт Акадэміі Навук Беларусі Уладзімер Платонаў, які часова выкладае ў Прынстонскім унівэрсытэце.

Даклад, які зрабіў Пётр Краўчанка на вечары закрануў блізу ўсе дзялянкі сучаснае замежнае палітыкі Беларусі. Спыніўся міністар замежных спраў і на мамэнтах нутранога жыцьця Бацькаўшчыны.

Вялікае зацікаўленьне прысутных выклікала паведамленьне аб стварэньні Антыкрызіснага Камітэту, праблемы з рэфэрэндумам, лёс Садружнасьці Незалежных Дзяржаў, эканамічныя дачыненьні паміж Беларусяй і былымі савецкімі рэспублікамі, сытуацыя з Чарнобыльскімі ахвярамі, пытаньне візаў ды шмат іншага.

На ўсе пытаньні прысутных, сп. Краўчанка даваў, як кажуць, вачарпальныя адказы.

Прывезьлі з сабой госьці шмат розных падарункаў ды літаратуры.

Закончыўся вечар-сустрэча зь міністрам П. Краўчанкам багатым супольным пачастункам, які падрыхтавалі амэрыканскія беларусы разам з прадстаўнікамі Беларускай місіі пры ААН.

**Алесь Васілеўскі**

# МІТРАПАЛІТ БАПЦ МІКАЛАЙ У БЕЛАРУСІ



*Уладыка Мікалай зь Япіскапам Полацкім і Віцебскім Дзімітрыям*

Ад 25-га лютага г. г. да 15-га сакавіка наведала Рэспубліку Беларусь і Беласточчыну дэлегацыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на чале зь Мітрапалітам БАПЦ Уладыкам Мікалаем. У дэлегацыю ўвайходзілі сп. Мікола Ганько — Сябра Рады БАПЦ і Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады й сп. Васіль Русак — Сябра Рады БАПЦ і Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобылю, ды сябра Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Галоўнай мэтай падарожжа было вывучэньне на месцы праблемаў спрычыненых чарнобыльскай катастрофай, наладжаньне кантактаў з Кіраўніцтвам ды вернікамі Праваслаўнай Цакрвы ў Беларусі, ды наведаньне сьвятых месцаў, манастыроў і цэркваў Беларусі. Іншымі мэтамі падарожжа былі: азнаямленьне за працэсамі гаспадаркі й адукацыі, ды наведаньне родных куткоў, якіх сябры дэлегацыі ня бачылі амаль пяцьдзесят гадоў. Вось, у гэтым парадку й раскажам пра нашае падарожжа.

## ПРЫЕЗД У МЕНСК

Прыляцелі мы ў Менск а гадз. 2:30 п.п. у аўторак, дня 25-га лютага. Зьдзівіла нас на лётнішчы ў Менску, тое што мытная служба прысьпешвала праверку багажа й нашых папераў. Чамусьці не падумалася, што нас будуць урачыста спатыкаць. І вось мы выходзім. Бачым вялікую грамаду людзей: нашых знаёмых і людзей якіх мы ведаем з прэсы зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, з хлебам і ручніком, ды кветкамі для кожнага з нас. Тут сп. Зянон Пазьняк, айцец пратаерэй Юры Латушка, Валя Трыгубовіч, Таня Антонова, Таня Гаранская й іншых — усе прыехалі. Сьпяваюць «Магутны Божа». Цяжка было устрымацца ўсхваляваньне у гэтых абставінах — першы раз у незалежным Менску сярод родзічаў. Нас хутка закватаравалі.

## НАВЕДАНЬНЕ МЭДЫЧНЫХ УСТАНОВАЎ

У сераду, 26-га лютага, мы наведалі Менскі Інстытут Радыялягічнай мэдыцыны, дзе даследуюць праблемы захворваньняў ад радыяцыі, правяраюць і лечаць дзяцей. Заступнік дырэктара Інстытуту дала нам лісту абсталяваньня, інструмантаў і лекаў, неабходных ў працы, якіх клініка ня мае. Мы спаткалі тут дзяцей загрожаных радыяцыяй і іх бацькоў, якія заўсёды маюць надзею, што іх дзеці ня ёсьць сур'ёзна загрожаныя. Тут тэлевізыя мела з намі інтэрвію адносна мэты нашага падарожжа ды магчымасьцяў дапамогі.

Наступнага дня, у Магілёве, далучыўся да нас др. Валеры Лісіцын, Дырэктар Цэнтру Экалягічнай Мэдыцыны Магілёва. Мы правялі з др. Лісіцыным шмат часу ходзячы або езьдзячы разам, і гэта хіба найбольш адукавала нас аб праблемах забруджаньня радыяцыяй. У Магілёве мы наведалі дня 28-га лютага Магілёўскі Шпіталь і яго Радзільны Дом. Заступніца Дырэктара Дому расказала аб праблемах лячэньня дзяцей пры недахопе мэдыцыны ды апаратуры й інструмантаў. Нас тут паінфармавалі, што натуральны прырост насельніцтва Беларусі крытычна падае. Гэта вельмі дрэнная зьява, якая пагражае ня толькі росту нацыі але й яе існаваньню. Тут нам таксама далі лісту найбольш патрэбных інструмантаў і лякарстваў.

У манастыры ў Полацку падышла да нас жанчына, дэнтыстка — нажаль ня помню назову ўстановы, зь якой яна прафэсыйна зьвязаная. Яна гаварыла аб цяжкасьцях працы ў яе галіне. На маю просьбу яна падрыхтавала лісту прыладаў, інструмантаў і лякарстваў, якія вельмі патрэбныя для яе ўстановы.

Да нас падыходзіла шмат прыватных людзей і прасілі аб дапамозе іхным дзяцей ці ўнукам. Мы зразумелі там на месцы, што патрэбная якасная мэдыцына — там відаць атрымліваюць шмат сырапаў, якія, хаця й карысныя, але ня лечаць сур'ёзных захворваньняў. Будзе падрыхтавана спэцыяльная брашура ў беларускай і ангельскай мовах, дзе будзем зьвяртацца аб дапамозе да дзяржаўных і прыватных установаў аб дапамозе для ахвяраў Чарнобылю.

## РЭЛІГІЙНА-ЦАРКОЎНЫЯ ВІЗЫТАЦЫІ

А гадз. 6-ай вечара, у сераду 26-га лютага прыняў нашую дэлегацыю Мітрапаліт Менскі й Слуцкі Філарэт, Экзарх усяе Беларусі. Спатканьне адбылося ў рэзыдэнцыі Мітрапаліта. Сама рэзыдэнцыя — архітэктурна цікавы будынак. Спатканьне было гістарычным ня толькі ў сэнсе, што яно было першым, але й, што прадстаўнікі БАПЦ зя мяжою Беларусі змаглі прадставіць Мітрапаліту Менскаму й Патрыяршаму Экзарху Ўсяе Беларусі свае пазыцыі адносна беларускай мовы ў царкоўнай службе й аўтакефальнасьці Беларускай Царквы. Уладыка Філарэт паясьніў, што адносна мовы ў Божай службе патрабуецца гатоўнасьць вернікаў в аднаго боку ды наяўнасьць правільных перакладаў евангельля й службоўнікаў. У гэтым напрамку Мітраполія працуе. Уладыка Філарэт падараваў гасьцям па копіі Евангельля паводле Мацея ў чатырох мовах: грэцкай, царкоўна-славянскай, расейскай і беларускай выдадзенага ў 1991-ым годзе. Беларускім Экзархатам была перавыдадзена ў 1990-ым годзе кніга Архіяпіскапа Апанаса «Беларусь у гістарычным, дзяржаўным і царкоўным жыцьці» у расейскай мове. Уладыка Мікалай у сваю чаргу падараваў Мітрапаліту Філарэту пераклад на беларускую мову трох літургіяў праваслаўнай Божай Службы. Спатканьне зь Мітрапалітам Філарэтам закончылася прыняцьцем для гасьцей.

У чацьвер, 27-га лютага, мы прыехалі ў Магілёў; прыехалі са спазьненьнем. Пачалі зьведваць горад. Мелі добрага праваднікa — студэнта гісторыі Ігара Марзалюка. Ён расказаў нам гісторыю гэтага слаўнага гораду, ды паказаў яго асаблівасьці. Цяпер вядзецца рэстаўрацыя архітэктурнага помніка беларускага барока 17-га стагодзьдзя Царквы Сьв. Мікалая. Царква стаіць у ніжняй пойме Дняпра. Робяцца пляны адбудовы Гарадзкой Ратушы.

Пасьля агляду Магілёва мы паехалі ў Слаўгарад, якія 70 кілёмэтраў на паўднёвы ўсход ад Магілёва. Пачаткі Слаўгарада ідуць дзесь да 6-8-га стагодзьдзя. Тут мы наведалі Царкву Раства Багародзіцы, збудаваную ў канцы 80-га стагодзьдзя. Недалёка ад царквы стаіць двух-павярховая званіца. Архітэктура царквы й яе размалёўка арыгінальныя й прыгожыя. 57 кампазіцыяў у фрэско пакрываюць прастору царквы ў двух ярусах: на ніжэйшым на тэму «Мукаў Хрыста» і на вышэйшым на тэму «Цябе Бога Хвалім». Нажаль царква ў мінулым ужывалася як склад, і будынак і фрэскі моцна пашкоджаны або зьнішчаны. Цяжка паверыць, што людзі маглі гэта зрабіць. Перад настаяцелем парахвіі стаіць цяжкое заданьне адбудовы царквы. Мы тут пазнаёміліся з а. Міхалам Мядзёлкам. Гэта чалавек скромны, але глыбокай веры й ён упэўнены, што царкву адбудуе. а. Міхал са сваёй сям'ёю прынялі нас вельмі цёпла з хлебам і сольлю. а. Міхал падарыў Уладыку Мікалаю ікону Ісуса Хрыста й ручнік. Было цёмна й падаў дождж, калі мы ад'язджалі са Слаўгараду.

На наступны дзень у пятніцу, у нас прадбачвалася шэраг сустрэчаў у Магілёве й Менску. Мы коратка наведалі Архіяпіскапа Магілёўскага й Мсьціслаўскага Максіма. Ізноў было паднята пытаньне ўжываньня беларускай мовы ў Богаслужбе.

## ХАТЫНЬ, КУРАПАТЫ

У сыботу раніцаю, 29-га лютага, мы паехалі ў Хатынь, 55 км ад Менску. Панарама помніка, што занімае плошчу каля 50-ці гактараў, адлюстроўвае вобразна й сымбалічна трагэдыю беларускага народу ў другую сусьветную вайну. У 1943-ім годзе нямецкія акупанты спалілі вёску Хатынь з яе жыхарамі. Помнік ушаноўвае памяць усіх, што зьгінулі ў змаганьні з акупантам. Высокая скульптура кампазыцыі Сяргея Сяліканава дзеда «Няскораны Чалавек», які трымае на руках забітага хлопчыка, балюча прамаўляе да кожнага, што сюды прыяжджае. Памятныя плыты, вечны агонь і сумны перазвон званоў глыбока напамінаюць аб трагэдыі апошняй вайны. Мы маліліся тут з Уладыкам Мікалаем за супакой тут спачываючых, ды каб больш войнаў ня было.

З Хатыні мы паехалі ў Курапаты. Гэта другое месца масавых растрэлаў беларускага цывільнага насельніцтва каля Менску перад пачаткам сусьветнай вайны. Тут шмат магілаў; некаторыя знойдзеныя раней і дасьледаваныя, новыя знаходзяцца цяпер. У Хатыні вораг нішчыў наш народ, а тут тое самае рабілі «нашы» ўлады. Цяжка гэта разумець. Стаіць тут, на ўскраю лесу, крыж, ля якога людзі кладуць кветкі. Сяньня тут сабралася шмат народу, ня гледзячы на сьнег. Тут мы маліліся з Уладыкам Мікалаем за супакой нявінных душаў.



*Малебен у Курапатах*

## БОЖАЯ СЛУЖБА Ў МІТРАПАЛІЧАЙ ЦАРКВЕ

У нядзелю І-га сакавіка Ўладыка Мікалай служыў Божую Службу ў Мітрапалічнай Царкве Ўсіх Сьвятых Беларусі. Саслужылі з Уладыкам а. прат. Юры Латушка, дыякан і паддыяканы. Служба была ў беларускай мове, прыгожа сьпяваў хор. Казаньне Уладыкі Мікалая было на тэму «Родная мова ў Царкве». Мы наведалі нядзельную школу пры Пятрапаўлаўскім Саборы, якую вядзе Алег Бембель; спаткаліся там з бацькамі й вучнямі. Вечарам мы былі на вячэрні ў Саборы. Пасьля вячэрні, якую служыў а. прат. Юры, на яго просьбу Ўладыка Мікалай служыў малебен ў беларускай мове. Сабор, які ўжываўся як архіў, быў вернуты Царкве толькі тры месяца таму назад. Для нас было наладжана прыняцьце ў адной з царкоўных заляў Царкоўным Брацтвам. Сп. Мікола Матрунчык, руплівы Старшыня Брацтва, прадставіў нас прысутным. Да нас прылучыліся яшчэ два маладыя сьвятары. Бяседа зацягнулася; мы гаварылі аб цяжкасьцях, асягненьнях ды плянах на будучыню.

*(Працяг у наступным нумары)*

**В. Русак**

**Напісана ў паразуменьні зь Мітрапалітам Мікалаем**

# САКАВІКОВЫЯ СЬВЯТКАВАНЬНІ

## АДЗНАЧЭНЬНЕ 25-ГА САКАВІКА Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ — НЬЮ ЁРКУ



*Танцуе Васілёк*

Дзень 25 Сакавіка быў адзначаны спэцыяльнымі малебнамі ў парафіях БАПЦ у Гайлянд Парку і ў мястэчку Дораты ды ў цэрквах Канстантынопальскае Патрыярхіі ў гг. Рычманд Гіле і ў Саўт Рывэры.

Урачыстае-ж адзначэньне угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, якое ладзілі Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне й Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі адбылося 29-га сакавіка ў гатэлі Гайят Рыджэнсі ў горадзе Нью Брансьвіку. Урачыстасьць была адчыненая айцом Васілём Андрэюком малітвай за беларускі народ ды благаслаўленьнем прысланым Уладыкам Мітрапалітам Мікалаем з Таронта. Вёў урачыстасьць д-р Юрка Кіпель, старшыня Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі.

Сп. Антон Шукелойц, даўгагадовы старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, падзякаваў моладзі за добрае супрацоўніцтва ды за пераняцьце моладзяй грамадзкія абавязкі ды прывітаў прысутных гасьцей: прадстаўніка Рэспублікі Беларусь у ААН сп. Генадзя Бураўкіна й ягоную спадарыню Юлію, дэпутата Вярхоўнага Савету і віцэ-прэзыдэнта БНФ — Уладзімера Заблоцкага, гасьцей зь Вільні — сп. Сяргея Шупу ды зь Беласточчыны сп. Янку Максімюка, а таксама юбіляра — 90-і гадовага сябру БАЗА, Аркадзя Ліхача, які ад 1950 году не прапусьціў ніводнага Сакавіковага сьвяткаваньня, ды іншых гасьцей. Сп. А. Шукелойц гэтаксама зачытаў прывітаньні ад дзесяткоў розных беларускіх эміграцыйных арганізацыяў, прывітаньні з бацькаўшчыны ды прывітаньне ад старшыні Рады БНР, д-ра Язэпа Сажыча. Асноўнымі дакладчыкамі на ўрачыстасьці былі спадарычня Раіна Сямёнава і спадарыня Зора Кіпель. Англамоўная дакладчыца спадарычня Сямёнава сканцэнтравала ўвагу на эканамічных праблемах Рэспублікі Беларусь ды магчымасьцях дапамогі і ўдзелу ў дапамозе беларуска-амэрыканскага грамадзтва. Спадарыня Кіпель параўнала аснаўныя дакумэнты беларускай дзяржаўнасьці — Устаўныя Граматы БНР з праэктамі новай канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Дакладчыца падкрэсьліла, што аснову беларускай дзяржаўнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, становіць акт 25 сакавіка, хоць грамадзтва можа адзначаць і дзень 25 жніўня як і іншыя беларускія сьвяты. Наступным дакладчыкам быў госьць з бацькаўшчыны, намесьнік старшыні сойму БНФ, сябра парлямэнту Рэспублікі Беларусь Уладзімір Заблоцкі. Спадар Заблоцкі падаў апошнія весткі з працы Вярхоўнага Савету Рэспублікі. Гэтаксама выступіў з прамовай, нядаўна прыехаўшы зь Беларусі, сп. Сяржук Сокалаў-Воюш, які дэтальна акрэсьліў прабег дзі цяжкасьці ў зьбіраньні подпісаў за рэфэрэндум у рэспубліцы.

Прадстаўнікі арганізацыі моладзі, сп.сп. Нік Бахар, Галіна Бахар, Дарота Рыжы, Коля й Павал Рамана ды Ірэна Азарка зачыталі прывітальныя тэлеграмы ад колькіх сэнатараў, кангрэсмэнаў ды мэраў гарадоў, улучна із прывітаньнем ад Прэзыдэнта Буша. Спадарыня Вера Бартуль зачытала прывітаньне ад Зянона Пазьняка. Д-р Юрка Кіпель паінфармаваў аўдыторыю аб прыбылых тэлеграмах з дзяржаўнага дэпартамэнту, ад Кангрэсавага Камітэту ды аб кантактах моладзі з колькімі сэнатарамі й кангрэсмэнамі.

Выступу і коратка падзяліўся ўражаньнямі, надоечы прыехаўшы зь Беларусі, дзе ён быў адным з удзельнікаў дэлегацыі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на чале зь Мітрапалітам Уладыкам Мікалем, сп. Васіль Русак.

На сьвяткаваньні была і багатая мастакая частка: выступалі салісты з калектыву беластоцкіх «Дубіноў» — Пятро Скепка, Галіна Якімюк, Андрэй Іванюк, ды таксама Віктар Тур, танцавальны ансамбль «Васількі» (Пятро і Дарота Рыжы, Галіна й Нік Бахары, Вера Запруднік, Уля Шульжыцкая, Нансы Захаркевіч, Павал Рамана) ды пад даўгія воплескі Сяржук Сокалаў-Воюш.

На ўрачыстасьці прысутнічалі й жвава цікавіліся жыцьцём мясцовае беларускае калёніі прадстаўнікі англамоўнае прэсы, а сп. Юрка Азарка, д-р Юрка Кіпель ды Нік Бахар далі абшырныя інтэрвію, якія былі выдрукаваныя ў газэце "Home News" колькі дзён пазьней. Акадэмія закончылася сьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі.»

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ 74-ЫХ УГОДКАЎ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ Ў САЎТ-РЫВЭР



*Беларускі сьцяг перад будынкам Гарадской Управы ў Саўт Рывэры*

Сьвяткаваньне адбывалося ў днях 21 і 22 сакавіка. 21 сакавіка быў падняты беларускі сьцяг перад будынкам гарадзкое ўправы ў прысутнасьці мэра гораду Томаса Дж. Тото і радных гораду. Пасьля, у залі Цэнтру, адбыўся пачастунак з удзелам мэра, гарадзкіх уладаў і прадстаўнікоў беларускіх грамадзкіх арганізацыяў.

У нядзелю 22 сакавіка у царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай настаяцелем а. Мячыславам Брынкевічам і а. протап. Сьвятаславам Каўшом — Адміністратарам беларускіх праваслаўных прыходаў у ЗША і Канадзе была адслужаная Сьвятая Літургія і малебен за Беларускі Народ.

А 3-ай гадзіне п.п., у залі Грамадзкага Цэнтру, адбылася ўрачыстая акадэмія прысьвечаная Акту 25 Сакавіка 1918 г. Акадэмію адчыніў і вёў інж. Міхась Бахар. Глыбокі і зьместоўны рэфэрат у беларускай мове «Распад імпэрыі і беларуская незалежнасьць» прачытаў старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі інж. Расьціслаў Завістовіч. Выстрымку з рэфэрату зьмяшчаем ніжэй. Былі прачытаныя надасланыя прывітаньні й праклямацыя губэрнатара штату Нью Джэрзі Джыма Флёрыё. Мэр гораду Саўт Рывэра Томас Дж. Тото прывітаў і асабіста прачытаў сваю праклямацыю. У мастацкай частцы прамалі ўдзел: кампазытар Аўген Б. Магаліф, ягоная дачушка Каця, Іван Альхоўскі, паэт Янка Золак, Віла Саўчанка і Пятро Нядзьвецкі. Адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну было закончанае сьвяткаваньне.

**М. Сенька**

### З ПРАМОВЫ Р. ЗАВІСТОВІЧА

У гэтым годзе беларускі народ ня толькі адзначае 74-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці свае Бацькаўшчыны 25-га сакавіка 1918 году, але й сьвяткуе новаздабытую незалежнасьць, якую Беларусь аднавіла 25-га жніўня мінулага году. Вядома, што для здабыцьця поўнае незалежнасьці патрэбен час. Хочацца верыць, што на гэты раз ён працуе на карысьць нашай Бацькаўшчыны. Беларусь, як незалежная дзяржава, была прызнаная ўжо шматлікімі дзяржавамі сьвету. У недалёкай будучыні яна, напэўна, стане сябрам Міжнароднага Валютнага Фонду, Сьветавога Банку й другіх важных эканамічна-фінансавых цэнтраў сьвету. Аднак, каб ажыцьцявіць усё гэта, Беларусь павінна ўвесьці свае грошы, правесьці поўную прыватызацыю й паказаць свой нацыянальны твар, стварыўшы сваё нацыянальнае войска. Без правядзеньня гэтых рэформаў, Беларусь ня зможа самастойна вырашаць свае нацыянальныя пытаньні й таму пра праўдзівую незалежнасьць гаварыць будзе немагчыма.

## САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

Аддзел БАЗА ў Кліўлендзе урачыста адзначыў 74-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, ў нядзелю 29 сакавіка 1992 году ў залі Грамадзкага Цэнтру Полацку. У праграме дня пасьля сьв. Літургіі а. Якуб адправіў малебен за Беларусь са сьцяжною вартаю ды сказаў добрую казань на тэму дня спалучаўшы з рэлігійным жыцьцём. Наступна ў вялікай залі адбыўся супольны абед прыгатаваны жанчынамі.

Праграму акадэміі адкрыў старшыня Аддзелу БАЗА Янка Ханенка. Усе разам адсьпявалі амэрыканскі гімн. Сп. Ханенка прывітаў гасьцей і прысутных ды прачытаў прысланыя прывітаньні ад: Галоўнай Управы БАЗА, Аддзелаў БАЗА Нью Ёрку, Нью Джэрсы, Каліфорніі, Кангрэсовага Камітэту ў Амэрыцы, Беларускай Цэнтральнай Рады й Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага. Прывітаў акадэмію старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч. Далей праграму вяла сп-ня Ліда Лазар-Ханенка.

Галоўны прамоўца Міхась Белямук з Кліўленду, які нядаўна быў у Беларусі, прачытаўкароткі рэфэрат прысьвечаны абвешчаньню беларускай дзяржаўнай незалежнасьці, 25 жніўня 1991 году. Ён расказаў пра посьпехі ў нацыянальным кірунку сярод навукоўцаў, у прэсе й выдавецтве, у палітычных партыях. Засноўваньне амбасадаў ў Менску і іншых дзяржавах, прызнаньне беларускай дзяржаўнай незалежнасьці шматлікімі іншымі краінамі, сьвяткаваньне сакавіковых угодкаў у Беларусі, прыхільныя адносіны беларусаў да эміграцыі й навязваньне цясьнейшай лучнасьці ды асноўныя пункты дакладу.

Наступна выступіў прадстаўнік губэрнатара штату Огаё Джорджа Вайновіча, Аўгуст Пуст. Ён прачытаў праклямацыю, прывітаў прысутных і павіншаваў з асягнутай дзяржаўнай незалежнасьцю.

Прат. Міхась Страпко прывітаў прысутных і зазначыў, што беларуская царква й нашыя сьвятыя айцы шмат спрычыніліся да пашырэньня Хрыстовае навукі нашага народу і таксама падтрымоўвалі ідэю вызваленьня 25 сакавіка.

У мастацкай частцы праграмы выступіў жаночы хор «Васілёк» пад кіраўніцтвам Кастуся Калошы, пад акампанімэнт Олі Дубанавіч-МкДэрмот у прыгожых нацыянальных вопратках выканаў некалькі народных песьняў на словы беларускіх паэтаў: «Родны край», «Поле», «Вечаком за рэчкаю» і «Магутнае слова». Сяброўкі хору Оля Лукашэвіч і Люба Блізьнюк зь Беластоку дуэтам выканалі «Палескія прасторы». А ў канцы Люба Блізьнюк выканала жартоўную песьню «Дзед і бабка». У далейшай частцы праграмы выступілі добра ведамыя й заслужаныя артысты зь Беларусі, Валянтына Пархоменка й Алесь Казак. Яны выканалі цэлы рад народных песьняў, новых пісьменьнікаў і кампазытараў, жартоўныя й гумарныя. Найбольшую ўвагу заслугоўвае песьня «Чарнобыль» ды рэлігійная — зварот да прэсьвятое Багародзіцы «Пачуй о, Маці». Праграма закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Сяньня, у сувязі з палітычнымі падзеямі што адбыліся ў Беларусі за кароткі час, 74-я сакавіковыя ўгодкі сталіся радасныя, шчасьлівыя вясёлыя і прыемна было ўсьведаміць што і наша праца не пайшла надарма. Прысутныя не сьпяшаліся разыходзіцца і ў вясёлай гутарцы засядзеліся да вечара.

Вялікая падзяка належыць камітэту аддзелу БАЗА за наладжаньне сьвята ды ўдзельнікам мастацкай часткі, гасьцям і ўсім прысутным за ўдзел і падтрымку.

**К. П.**

# ДЗЕНЬ 25-ГА САКАВІКА

## ЛЁС АНДЖЭЛЕС

Сьвяткваньне адбылося ў нядзелю 22-га сакавіка 1992 г.

Акадэмія пачалася адсьпяваньнем амэрыканскага гімну "God Bless America" ды беларускага рэлігійнага гімну «Магутны Божа».

Айцец Ёван Пурыч, нядаўна высьвечаны Уладыкам БАПЦ, Мікалаем, адчыніў афіцыйную частку малітваю.

Праграму акадэміі вёў сп. Кастусь Ворт, дзеючы старшыня аддзелу БАЗА. У сваім уступным слове ён падчыркнуў, што Беларусь у 1991 годзе здабыла незалежнасьць de Jure, якую прызналі больш за 70 краінаў сьвету.

Далей ён перадаў слова сп. С. Шупу, госьцю зь Беларусі. Сп. Шупа цяпер працуе ў Скарынаўскім Цэнтры ў Вільні, а таксама ў рэдакцыйнай калегіі газэты «Наша Ніва».

Сп. Шупа ў сваім кароткім, але зьмястоўным выступленьні насьвятліў плюсы й мінусы сяньняшняга палітычнага становішча ў Беларусі. Галоўны плюс — гэта тое, што Беларусь легальна далучылася да сям'і нацыяў сьвету. Мінус — гэта тое, што Беларусь яшчэ толькі пачала пераход да запраўднае дэмакратыі.

Прамоўца ацаніў трываласьць патрыятызму сярод беларускае эміграцыі, захаваньне ёю веры ў адраджэньне беларускае дзяржаўнасьці, захаваньне роднае мовы й культуры. Ён заклікаў эміграцыю не зьневярацца павольным прагрэсам Беларусі да поўнага нацыянальнага адраджэньня й дэмакратыі. Ня гледзячы на перашкоды, дасягненьне гэтых мэтаў няўхільнае.

Сп. Шупа падчыркнуў, што менавіта сябры аддзелу БАЗА ў Каліфорніі робяць найбольш карысную працу ў сяньняшні час — інфармаваньне заходняга сьвету пра запраўдны стан падзеяў на Беларусі, пра прагрэс і перашкоды. Квартальнік "Belarusian Review", выдаваны ў Каліфорніі, — гэта сяньня найбольш эфэктыўны мост паміж Беларусяй і сьветам.

Сп. Кастусь Ворт прачытаў цікавы рэфэрат у ангельскай мове, падрыхтаваны прадстаўніком малодшага пакаленьня беларускае эміграцыі, сп. А. Вініцкім. Аўтар рэфэрату імкнуўся перадаць англамоўнай публіцы наагул, а ў тым ліку нашай эміграцыйнай моладзі, сутнасьць і гісторыю беларускага вызвольнага змаганьня — у зразумелых словах і тэрмінах.

У мастацкай частцы ўрачыстасьці сп-ня К. Вініцкая прадэклямавала верш Янкі Купалы «Беларушчына» й верш Натальлі Арсеньневай «Крыж». Яна таксама прачытала шматлікія прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў ЗША, Канады, Ангельшчыны й г.д., а таксама ад амэрыканскіх арганізацыяў. На адрас рэдактара Belarusian Review («Беларускага Агляду») прыйшлі прывітальныя тэлеграмы ад прэзыдэнта Буша, кангрэсмана Дана Рорабакера (Р-Каліф) ды каліфорнскага сэнатара Робэрта Бэвэрлі.

У канцы афіцыйнае часткі акадэміі быў адсьпяваны беларускі нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі.» Вечар закончыўся смачным пачастункам, падрыхтаваным удзельнікамі ўрачыстасьці. Быў падняты тост шампанскага за ўзнаўленьне незалежнасьці Бацькаўшчыны.

Удзельнікі сьвяткаваньня сабралі ахвяры на розныя беларускія выданьня: газэту «Беларус», англамоўны квартальнік "Belarusian Review", а таксама на выдавецкі фонд Беларускага Інстытута Навукі й Мастацтва.

Аддзел БАЗА ў Каліфорніі выказвае асаблівую падзяку сп. Я. Арцюху за арганізацыю ўдзелу ў сьвяткаваньні нашага суродзіча з Бацькаўшчыны, сп. С. Шупы, а таксама за друк і разасланьне запросінаў на сьвяткаваньне.

**Ю. Станкевіч**

# АДЭЛЯЙДА, ПАЎДЗЁННАЯ АЎСТРАЛІЯ



*Малебен у царкве Пятра й Паўлы ў Адэляйдзе*

Беларускае аб'еднаньне і Праваслаўная парафія Сьвятых Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе абыходзілі 29-га сакавіка сёлета 74-ыя ўгодкі Незалежнасьці Беларусі.

А 10-ай гадзіне царква напоўнілася праваслаўнымі й каталікамі, каб адсьвяткаваць гэты вялікі дзень Незалежнасьці Беларусі. Божая служба была адпраўленая айцом Міхасём Бурносам. Добра сьпяваў хор пад кіраўніцтвам Уладзімера Калесьніковіча.

Пасьля літургіі быў адслужаны Малебень за Беларускі народ і за Беларусь. Два сьцягі — Бел-чырвонабелы й Аўстралійскі — трымалі Мікалай Кандрусік і старшыня Беларускага Аб'еднаньня Мікалай Колес. Па заканчэньню малебню ўсе прысутныя пайшлі ў пры-царкоўную залю, дзе быў прыгатаваны супольны стол. Старшыня М. Колес прывітаў усіх і папрасіў устаць і адсьпяваць Беларускі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»

М. Колес павіншаваў усіх зь вялікім сьвятам Незалежнасьці Беларусі, прачытаў надасланыя віншаваньні ад другіх арганізацыяў ды прачытаў рэфэрат на тэму Незалежнасьці Беларусі ў беларускай і ангельскай мовах.

Па заканчэньню афіцыйнай часткі, ежа была благаслаўлёна айцом Міхасём і за смачным пачастункам, тостамі за незалежную й вольную Беларусь, за вясёлымі песьнямі грамада прыемна правяла час.

**У. Акавіты**

# ТАРОНТА, КАНАДА

Згуртаваньне Беларусаў Канады ў гэтым годзе ладзіла сьвяткаваньне 74-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў нядзелю 22-га сакавіка 1992 г. Сёлетняе сьвяткаваньне мела асаблівы характар, бо пасьля трохтыднёвага падарожжа ў Беларусь Уладыка Мікалай служыў Багаслужбу за Беларускі Народ і за Беларусь, якія стаяць перад вялікімі заданьнямі канчатковай адбудовы сваёй вольнай і незалежнай дзяржавы. Царква напоўнілася вернікамі й прыхільнікамі беларускай справы. Шчырыя малітвы і старанны сьпеў маладых харыстых ствараў сьвяточны настрой. У сваёй казані Ўладыка Мікалай падкрэсьліў патрэбу моцнай веры ў нашу справу, каб дачакацца належных плёнаў, пасьля доўгага чаканьня. Пасьля канчатковых малітваў і «Магутны Божа...» усе перайшлі ў залю, дзе руплівамі гаспадынямі была падрыхтавана перакуска, каб можна было спакойна пры сталох пачуць прывітаньні й рэфэраты на тэму дня. Кіраўніком урачыстасьці быў Сп. Аляксандр Насевіч, які для прывітаньня даў слова Старшыні ЗБК сп. Міколу Ганько. Сп. Мікола Ганько, які спадарожнічаў з Уладыкам Мікалаем ў Беларусь, вітаў прысутных ад імя свайго, Галоўнае Ўправы ЗБК і перадаў прывітаньні ад Старшыні і кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Прысутны на сьвяткаваньні Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Др. Язэп Сажыч прывітаў усіх і заклікаў да далейшай працы на карысьць свайго Народу й Бацькаўшчыны. Ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў вітала Старшыня Др. Раіса Жук-Грышкевіч. Былі прачытаныя пісьмовыя прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў. Сп. Аляксандр Палескі наступна прадставіў журналіста й карэспандэнта Беластоцкай «Нівы» Сп. Янку Максімюка, што прыехаў у Канаду на запросіны ЗБК зь Нью Ёрку. Сп. Я. Максімюк прачытаў рэфэрат на тэму дня. Дасканала апрацаваная тэма паказала значэньне Акту 25-га Сакавіа у гісторыі апошніх 74 год і значэньне яго на сяньня і на будучыню. (Ніжэй падаем галоўныя часткі рэфэрату). Адсьпяваньнем Нацыянальнага Гімну «Мы Выйдзем Шчыльнымі Радамі...» закончылася ўрачыстасьць.

Пасьля Сп. Мікола Ганько коратка расказаў пра падарожжа ў Беларусь пра свае Ўражаньні і даваў водле магчымасьці адказы на шматлікія пытаньні.

**Мікола Ганько**

## З ПРАМОВЫ Я. МАКСІМЮКА

Цяперашні беларускі парлямант, і ўрад, у якім дамінуюць учарашнія камуністы, з палітычнымі навыкамі найлепшых часоў брэжневізму, ня ў змозе прыняць той выклік, які новая палітычная сытуацыя ставіць перед Беларусяй. Паўгоду «пасьляжнівенскай незалежнасьці» паказвае як на далоні ранейшую кансэрватыўнасьць у падыходзе да эканамічных праблемаў, якія без сумлеву будуць на найбліжэйшыя гады вырашаць пра лёс дзяржавы й палітычнай сыстэмы, і па-ранейшаму скрыгатлівыя тармазы ў сфэры разьвіцця нацыянальнай культуры й мовы. У галіне замежнай палітыкі бракуе нейкай хоць тымчасовай канцэпцыі, якая дала-б яснасьць наконт уладжваньня ўзаемадачыненьняў з найбліжэйшымі суседзямі, асабліва з новымі дзяржавамі, якія выасабіліся з ранейшага Савецкага Саюзу й стаяць перад заданьнем наладзіць адносіны паміж сабою на зусім іншай аснове.

Зь ініцыятывы Беларускага Народнага Фронту на Беларусі йдзе збор подпісаў у падтрымку рэфэрэндуму адносна новых выбараў. Майма надзею, што рэфэрэндум адбудзецца, а за ім новыя — з дэмакратычнай ардынацыяй — выбары. Спадзяёмся, што выбары высунуць новых людзей і новы ўрад, які будзе больш дастойны тых выклікаў часу, перад якімі стаіць Беларусь.

Першым крокам на тым шляху павінны быць вольныя й дэмакратычныя выбары, каб законы ў рэспубліцы сапраўды служылі інтарэсам беларускага народу, а не посткамуністычнай скападарчай мафіі. І каб людзі, якія будуць кіраваць беларускай дзяржавай, былі беларусамі не з назову й пашпартнай прапіскі, а ў душы. Усё гэта, нясумненна, збудзецца, хоць не адразу. Але варта яшчэ крыху пачакаць, калі чакалася гэтулькі гадоў, каб пабачыць перамогу 25 Сакавіка. Яна ўжо блізка.

## ДНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ВІЛЬНІ

Ад 25 да 27 сакавіка ў Вільні адбываліся «Дні Беларускай Культуры». Урачыстасьці былі арганізаваныя зь ініцыятывы Адзьдзелу па справах нацыянальнасьцяў пры урадзе Літоўскай Рэспублікі з актыўным удзелам беларускага згуртаваньня «Сябрына». У праграме сьвяткаваньняў адбыўся паказ Купалавых «Тутэйшых», выступы Менскага хору «Унія», выстаўка беларускіх мастакоў ды выстаўкі ўмельцаў. У дзень адчыненьня адзначэньняў беларускай культуры — 25 сакавіка — у акадэмічным тэатры Вільні адбылася ўрачыстасьць прысьвечаная Дню Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. З прывітальным словам да беларусаў выступалі старшыня Вярхоўнага Савету Літоўскай Рэспублікі Вітаўт Ландсбэргіс ды прыбылы зь Менску на ўрачыстасьць старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь — Станіслаў Шушкевіч. Аб беларускіх сьвяткаваньнях шырака паведамлялася й камэнтавалася ў літоўскім ды беларускім друку.

# 25-ГА САКАВІКА Ў ПЭРЦЕ — АЎСТРАЛІЯ

Сьвяткаваньне 74-ых угодкаў абвешчаньня Дзяржаўнасьці Беларусі Актам 25-га Сакавіка 1918 г. адбылося ў суботу 28-га сакавіка а першай гадзіне ў залі Беларускага Народнага Дому.

Вітаў прыбыўшых і адчыніў урачыстасьць старшыня Б.А. у З.А. Міхась Раецкі малодшы. Сьвяткаваньне пачалося адыграньнем беларускага нацыянальнага гімна, затым настаяцель прыходу БАПЦ айцец Уладзімер адправіў малебень за Беларускі народ. Атрыманыя прынагодныя прывітаньні ад Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, Аддзелу БАЗА у Нью Ёрку і Беларускага Аб'еднаньня Паўдзённай Аўстраліі прачытаў сп. Р. М., які гэтаксама зрабіў даклад на тэму дня пабеларуску. Рэфэрат аб значэньні 25-га Сакавіка для Беларускага народу пангельску прачытаў Міхась Раецкі малодшы. Зацікаўленьне дакладамі было вялікае — абодвы дакладчыкі былі ўзнагароджаныя праяцлымі воплескамі. Закончылася Акадэмія агульным пачастункам, у часе якога шмат разважалася аб царкоўных і арганізацыйных справах, а таксама пры нагодзе было сабрана 240 даляраў на «Дар Сакавіка».

**З. М.**

**Ахвяры на Беларускае Радыё ў Пэрце**

П. і В. Дарэўскі 100.00 аўстр. даляраў

*З жыцьця ў Чыкага*

## ЭТНІЧНАЯ МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА



*Жонка Губэрнатара Брэнда Эдгар са сп. Нікадэмам Жызьнеўскім на выстаўцы*

Напрыканцы лістапада летась сп-ня Пэт Міхальскі, асыстэнтка губэрнатара штату Іліной, Джыма Эдгара па этнічных справах паведаміла сп-ню Веру Рамук, сакратарку Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага, што штат арганізуе этнічную мастацкую выстаўку ў штатным будынку ў Чыкага 15-га сьнежня, ды прасіла сабраць творы беларускіх мастакоў, што жывуць у штаце Іліной.

Спакваля пачалася крапатлівая падрыхтоўка ў наладжаньні, збору ды падбору мастацкага матэрыялу ад мастакоў.

Удзел у выстаўцы прынялі нашыя дзьве мастачкі і двое мастакоў. Сп-ня Людвіка Бяленіс выстаўляла вышыўку з васількамі на канве крыжыкам. Сп-ня Валя Мазура — вышыўку, цікавую сваёй кампазыцыяй, якая прадстаўляла гэамэтрычныя фігуры беларускіх узораў у спалучэньні чырвонага і чорнага колераў. Сп. Нікадэм Жызьнеўскі экспанаваў вобраз флямінгаў выцісьнутых на медзі, а сп. Леанард Джансан — тры абразы на канве алеям, якія прадстаўлялі Гусі ў палёце, Узьбярэжжа возера Мічыган і Запальная сьвечка на падстаўцы.

У выстаўцы прынялі ўдзел 72 мастакі і мастачкі ад 25-ці этнічных групаў, выстаўляючы 80 мастацкіх твораў.

13-га лютага сёлета адбылося прыняцьцё для ўсіх мастакоў-удзельнікаў, у часе якога сп-ня Брэнда Эдгар, жонка губэрнатара, у сваёй прамове нагадала значэньне гэтай выстаўкі. Кожны мастак атрымаў пасьветку узнаньня. Наступна сп-ня Брэнда Эдгар агледзіла выстаўку і сфатаграфалася з кожным мастаком.

Выстаўка трывала да канца месяца лютага.

**Вітаўт Рамук**

## УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў ЛЁНДАНЕ

Сьвяткаваньне 74-х угодкаў Акту 25-га Сакавіка арганізаванае галоўнай управай Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ), адбылося ў суботу 28-сакавіка ў залі Беларускай бібліятэкі імя Фр. Скарыны. Спадар Янка Міхалюк, старшыня ЗБВБ адкрыў урачыстую акадэмію прамовай аб значэньні даных угодкаў. Сп. А. Зданковіч зачытаў надасланыя прывітаньні ды зьвярнуў увагу на існуючы палітычны стан у сучаснай Беларусі. Ён паінфармаваў, што ўжо другі год, як у Менску беларускі нацыянальны актыў сьвяткуе угодкі незалежнасьці Акту 25-га Сакавіка, на жаль — неафіцыяльна. Стаўленае, на весенскай сэсіі Вярхоўнага Савету, пытаньне прызнаньня 25-га Сакавіка дзяржаўным сьвятам — было адхілена паколькі большасьць дэпутатаў з'яўляюцца камуністычнай арыентацыі. Далей прамоўца зазначыў што нацыянальны патэнцыял нашага народу аслаблены ды ў краіне пануе эканамічны крызіс. Наш працавіты народ задоўжны сьветавым банкам на дзясяткі мільярдаў доляраў, а цяпер патрабуе далейшых пазычак. Аднак, дзякаваць Богу, што мы можам сьвяткаваць разам з нашымі людзьмі — вось тут на залі прысутнічае немалая грамада прыемных і цікавых людзей зь Беларусі, сярод якіх і пасол У. Уласевіч.

Айцец А. Надсан зачытаў прывітальныя тэлеграмы: ад Старшыні БНФ З. Пазьняка, галоўнага рэдактара выдавецтва Беларусь А. Лукашука і ад дэпутата Вярхоўнага Савету і сябры БНФ, С. Навумчыка. Далей а. Надсан падкрэсьліў недахопы сучаснага ураду і цяжкі, замаруджаны працэс адраджэньня.

Адсьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», афіцыяльная частка была закончана. Сп. Я. Міхалюк запрасіў злажыць грашовыя ахвяры на Дар Сакавіка, што выкарыстаецца на выдавецтва беларускіх кніжак і запрасіў на пачастунак. Было сабрана 175 фунтаў. Ахвярадаўцам шчырае дзякуй!

**А. Зданковіч**

Марат Баскін

### *НЬЮ-ЁРК, ВЯСНА...*

Нью-Ёрк глядзіць вачыма гмахаў на неба
і павучае Бога,
як жыць трэба.
А Бог глядзіць на Нью-Ёрк зь неба
і тлумачыць
як жыць ня трэба...

...

Я сам сабе выбраў гэткі лёс
і зараз крочу ў ім патроху
як на Галгофу
і на канцы гэтага шляху
лягу
сьпіною дакрануся зямлі,
а вачамі ўткнуся ў неба
і ўбачу там сонейка
падобнае на бохан хлеба
і пачую сьпеў жаўрука
той які чуў у дзяцінстве
і апусьціцца побач са мною
Бел-чырвона-белая
лятаючая талерка
з краіны якую завуць
Беларусь...

## МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ПА ЧАРНОБЫЛЮ

Міжнародны Кангрэс па Чарнобылю адбыўся ў Менску ад 13-га да 17 красавіка сёлета. У Кангрэсе, які быў арганізаваны Беларускім Дабрачынным Фондам «Дзеці Чарнобыля» ды іншымі беларускімі арганізацыямі ды ўстановамі, узялі ўдзел прадстаўнікі дзясяткаў краінаў. Ад беларусаў Канады удзел у працы Кангрэсу ўзяла сп-ня Івонка Сурвілла і ейныя уражаньні з Кангрэсу ды паездкі на Беларусь будуць друкавацца ў наступных нумарох «Беларуса.

## АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНІМ'у

| | |
|---|---|
| Жаноцкае Згуртаваньне ў Кліўленьдзе праз сп-ню Валю Яцэвіч | ам. дал. 2000 |
| БАЗА, Адзьдзел Каліфорнія (другі раз), праз сп-ню Кацю Вініцкую | 50.00 |
| В. Тумаш, малодшы | 10.00 |
| У. Ракуць | 50.00 |
| Н. Кудасава | 124.00 |
| Б. Даніловіч (трэйці раз) | 100.00 |
| БАЗА, Адзьдзел Кліўленд, праз старшыню Я. Ханенку | 500.00 |
| І. Пануцэвіч | 100.00 |
| А. і Л. Бяленіс | 100.00 |
| М. Латушкін | 100.00 |
| М. Клішэвіч | 20.00 |
| У. Машанскі | 20.00 |

## ДАБРАЧЫННЫ КАНЦЭРТ У АТАВЕ

21-га сакавіка, у амфітэатры Атаўскага Унівэрсытэту, адбыўся канцэрт клясычнай гітары і флямэнка арганізаваны Канадыйскім Фондам Дапамогі Чарнобылю ў Беларусі.

У праграме былі творы эўрапэйскіх і паўднёва-амэрыканскіх кампазытараў, фальклёр і флямэнка. Выканаўцы: гітарыст Эд Гонывэл, прафэсар музыкі Атаўскага Унівэрсытэту (клясычная гітара) і Лео Марты-Агуяр (флямэнка). Канцэрт прайшоў зь вялікім посьпехам. Увесь даход быў пераасланы на Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобылю ў Беларусі. Абодвы гітарысты ахвяравалі свой час і талент для гэтай шляхотнай мэты.

**Я. В.**

## ПРА БЕЛАРУСКУЮ КУЛЬТУРУ Ў ГАРВАРДЗЕ

Ад 2-га да 4-га красавіка ў Камбрыдж, Масачусэт, у Гарвардскім Унівэрсытэце адбылася канфэрэнцыя навукоўцаў, якія вывучаюць традыцыйную культуру краінаў Усходняй Эўропы. Канфэрэнцыю арганізаваў Гарвардскі Інстытут Украінскіх Студыяў. Удзельнікі канфэрэнцыі, са Злучаных Штатаў, гэтак і зь іншых краінаў, падзяліліся вынікамі сваіх дасьледваньняў у розных дзялянках беларускай, баўгарскай, македонскай, расейскай, сэрбскай, украінскай ды вугорскай культуры.

Марыя Паўла Сурвілла прачытала даклад на тэму *«Купальле: зьмены й ўзмагутненьне праз беларускі рытуал»*. Даклад будзе надрукаваны ў публікацыі выбраных дакладаў Канфэрэнцыі пазьней у гэтым годзе. Трэба гэтта заўважыць, што Марыя Паўла Сурвілла атрымала нядаўна ступень кандыдата навук (Этнамузыкалёгія) на Мічыганскім Унівэрсытэце ў Анн Арбар і цяпер працуе над доктарскай тэзай.

**Я. В.**

## ПАДЗЯКА

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп. сп.: Ч. Найдзюк, А. Маркевіч, Б. Даніловіч, М. Прускі, Б. Кіт, Л. Шурак, У. Акавіты, М. Раецкі, М. Смаршчок, Я. Жучка.

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА Ў САЎТ РЫВЭРЫ



*Сп-ня Надзя Кудасава на выстаўцы*

Дзевятнаццатую з чаргі мастацкую выстаўку ў Беларускім грамадзкім цэнтры ў Саўт-Рывэры, Нью-Джэрзі, адчыніла 15 сакавіка 1992 г. мастачка Ірэна Дутко.

Выставілі свае творы наступныя мастачкі і мастакі: Ліза Андрэюк (чырвоная ружа і два пэйзажы), Іда Бутэрворт (пяць пэйзажаў і дом, замкавага стылю), Ірэна Дутко (тры заклапочаныя жанчыны, зіма ў лесе і вечар у полі каля вёскі), Тамара Дутко (Мадэрная карціна, хіба, дождж сьцякае па шыбе вакна?). Надзя Кудасава (васілёчкі і, хіба, бурлівы Нёман...), Людміла Махнюк (кветкі і два пэйзажы.), Таня Місьлюк (тры заштрыхоўкі цэркваў і адной хаты.), Аліса Махнюк (пяць малюнкаў: васілёчкі і кветачкі, кветачкі...), Тамара Кольба (Трыптых: статуі Свабоды, акружаныя выдатнымі беларусамі ды Францішак Скарына і тры карціны зыркіх вясновых кветак), Івонка Сурвіла (Эўфрасіньня Полацкая), Алег Махнюк (два зубры і тры зубраняты мірна пасуцца, чатыры бярозы, а за імі хата.), Аўген Скаўронскі (два пэйзажы.), Мікалай Дутко (чатыры каляровыя фота-пэйзажы.), Яраслаў Вініцкі (пяць фота-пэйзажаў.), Алесь Сільвановіч (дзевяць каляровых фота-пэйзажаў, нацюрморт і Саўтрывэрская Беларуская царква).

Што тычыцца ручных вырабаў, дык, за выключэньнем Алега Махнюка і Мікалая Грэбеня, ізноў дамінуюць жанчыны: Юля Андрусышын, Каця Блюм, Галіна Брынкевіч, Ірэна Дутко, Таня Гэтман, Валя Камянкова, Зора Кіпель, Надзя Кудасава, Ліза Літаровіч, Люда Літаровіч, Люда Махнюк, Марыя Наумчык, Валя Рагалевіч, Марыя Стагановіч, Хрысьціна Урыўская, Ірэна Мэрдзер і Ніна Згірская. У разьбе па дрэву няма роўні Алегу Махнюку.

Шмат было вышываных кашуляў, абрусаў, рушнікоў. Быў калаўрот, прасьніца, на якой спрытна прала Надзя Кудасава. А яшчэ: лялькі, куфэрачкі, крыжычкі. Ня ведаю, хто намаляваў Крыж Сьвятое Ефрасіньні Полацкай, зроблены ў 1181 годзе.



*Беларускія кашулі*

Люда Літаровіч дэманстравала фарбаваньне Вялікодных яек. Я не бяруся даваць ацэнку паасобных твораў, усе творы захапляюць і хваляюць. Беларускай эміграцыі ёсьць чым хваліцца й ганарыцца. Не здарма-ж, хіба, завіталі на Выстаўку паважаныя госьці: консул Рэспублікі Беларусь Уладзімер Сакалоўскі з сужэнкай, сталы прадстаўнік Беларусі ў Аб'ядналых Нацыях Генадзь Бураўкін з сужэнкай і дачушкай, ды Прэзыдэнт Акадэміі Навук Беларусі Уладзімер Платонаў з сужэнкай.

На заканчэньне хочацца пажадаць нашым няўтомным і таленавітым мастачкам і мастаком — так трымаць!.. Ды яшчэ лепш!..

**М. Кавыль**

## АПАЛЁНІЯ САВЁНАК
**(На 10-ыя ўгодкі сьмерці)**



Нарадзілася 8-га кастрычніка 1901 г. у засьценку Аўгустова ў Лагойшчыне, у сям'і зьбяднелай шляхты. Дзед Апалёніі, Пётра Раткевіч за ўдзел у Паўстаньні 1863-га году быў расейскім урадам пазбаўлены шляхецтва. Бацька, Язэп Раткевіч жыў і працаваў яшчэ на гаспадарцы. Мама зь любасьцяй заўсёды ўспамінала свае дзіцячыя гады на Лагойшчыне.

У пачатку стагодзьдзя сям'я Раткевічаў пераехала ў Менск. Вучылася Апалёнія ў Царкоўна-прыхадзкой школе ў Менску, вучылася заўсёды вельмі добра. Была здольная й працавітая.

Вайна 1914-га году застала іх у Менску. Тут-жа ў Менску мама хутка далучылася да беларускага руху. Ужо ў 1916-ым годзе спаткалася са старэйшымі беларускімі дзеячамі, Антонам Лявіцкім і ягонай дачкой Вандай Лявіцкай, якія заапекаваліся маладой Апалёніяй, усьведамілі яе і прыцягнулі ў «Беларускую Хатку».

У 1918-ым годзе, пасьля сканчэньня настаўніцкіх курсаў, яна пачала выкладаць у школе. Вось вытрымка зь яе успамінаў:

«Калі ўвосень 1918 году адчыніліся беларускія школы я была якраз скончыўшы каротка-тэрміновыя настаўніцкія курсы, хоць мела толькі сямнаццаць гадоў, мяне далучылі да групы першых беларускіх настаўнікаў».

Так яна й засталася настаўніцай-пэдагогам на ўсё сваё жыцьцё.

У 1921 годзе выйшла замуж за Лявона Савёнка. Дваццатыя і пачаткі трыццатых гадоў былі плённыя ў жыцьці Апалёніі — яна шмат працавала ў пэдагагічнай галіне, пісала, публікавала. Цяпер пераглядаючы «Летапіс Беларускага друку» за тыя гады натрапіла больш за паўтузіны кніжак, якія мама напісала ці-то сама, ці-то ў супрацоўніцтве зь іншымі пэдагогамі.

Скончыла мама Пэдагагічны факультэт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, а пазьней Факультэт мовы й літаратуры.

Шмат перажылося й пацяперлася ў 30-ыя ды 40-ыя гады, але мама заўсёды заставалася беларускім настаўнікам. У часе 2-гой сусьветнай вайны лёс кідаў сям'ю па сьвеце: Польшча, Сілезія, Баварыя. Ды-Пі лягеры. Тут зноў настаўніцкая праца: беларускія дзіцячыя садкі, пачатковыя школы, гімназіі. У 1946 годзе выдала першы на эміграцыі Беларускі Лемантар, на якім соткі дзяцей, а нават і дарослых, вывучалі беларускую мову. Яшчэ ня гэтак даўно, я спаткала ў Кліўлендзе вельмі мілую старэйшую жанчыну, якая ўспамінала, як некалі ў Ды-Пі лягеры мама працавала зь імі, дарослымі, і вучыла мову.

У 1950-ым годзе нарэшце апынулася ў Вольным сьвеце, у краіне Вашынгтона, у благаслаўлёнай краіне, як мама любіла яе называць. Тут, у Нью-Ёрку працавала як мага й дзе мага — і на фабрыцы і ў майстэрнях, але заўсёды была актыўнай ва ўсіх беларускіх пачынаньнях.

У 1954 годзе набылі кавалак свае зямлі — «Новае Зямлі» — і пераехалі на сваю гаспадарку у Памоне, у Штаце Нью-Джэрзі. Адвечная цяга беларуская да свае зямлі. Там на гаспадарцы памёр бацька, Лявон Савёнак у 1974-ым годзе. А 10 красавіка 1982 году, у сыботу перад Вялікаднем памерла й Мама. Памерла раптоўна, спакойна. Была актыўнай і жыцьцярадаснай да апошняй хвіліны — рыхтавалася да сьвята. Была мама глыбока рэлігійнай. Пераклала шмат малітваў на беларускую мову, якія незадоўга да сьмерці ў рукапісах перадала ў Беларускі Музэй і Бібліятэку ў Лёндане.

Усе гэтыя ўспаміны наплылі ў 10-ыя ўгодкі яе сьмерці.

Трымайся, мамачка!

Твая Зора

*На помнік І. Луцкевічу ў Вільні*

| | |
|---|---|
| Л. і Э. Норык | 100.00 |
| Р. Станкевіч | 100.00 |
| Я. Каханоўская | 50.00 |
| А. Шукелойць | 50.00 |
| Разам | 300.00 |

## НОВАЯ КАСЭТА ДАНЧЫКА

Паведамляем, что выйшла новая касэта Данчыка. Гэтым разам Данчык сьпявае пад акампаньямэнт вядомага беларускага кампазытара Яўгена Магаліфа. Бальшыня песьняў у ягонай апрацоўцы. На касэце запісана 14 песьняў: рамансы, патрыятычныя, народныя. Цана касэты 20 амэр. даляраў, перасылка 1,50. Замаўляць касэту й прысылаць чэкі на наступныя адрасы:

Vera Bartul
146 Sussex Drive
Manhasset, N.Y.
11030

Julia Andrusyshyn
430 E. 6th St. Apt. 3C
New York, N.Y.
10009

Паколькі на Беларусі ёсьць шмат жадаючых набыць гэтую касэту, зьвяртаемся да грамадзтва з просьбаю памагчы нам у гэтай справе, прысылаючы ахвяры на пакрыцьцё касэтаў-падарункаў на Бацькаўшчыну.




**Side 1**

Pahonia • Čaroŭnaja Hanna • Tumany • My jašče sustreniemsia • Na apošniaj viaršcie • Chatka pa-nad rečkaju • Charašucha

**Side 2**

Dva Polacki • Kalychanka • Viečar nad Ščaraj • Tolki ŭčora • Bolš table je nie pazvaniu • Jak ty sa mnoj • Mahutny Boža

**Ад адміністрацыі газэты Беларус**
**Безперабойны выхад газэты забясьпечваецца падпіскай і ахвярамі.**
**Калі ласка ўрэгулюйце падпіску й дайце ахвяру.**

## СЬВ. ПАМ. УЛАДЗІМЕР ЦЬВІРКА
### 2.I.1928 — 15.III.1992



Пасьля шматгадовае хваробы й кольніх апэрацыяў памёр у нямецкім горадзе Мюнхэне сьв. пам. Уладзімер Цьвірка (Вадзім Сурко), даўгагадовы працаўнік на ніве беларускага журналізму й выдавецтва.

Нарадзіўся Вадзім-Валодзя ў мястэчку Мір на Наваградчыне ў сям'і настаўніка. Маці свае ён не памятаў, але ведаў, што яна мела добры голас, які перадала і яму ў спадчыну. Голасам гэтым, маючы добры музычны слух і чулaлівую душу, ён выдатна карыстаўся ў студэнцкім хоры кампазытара Міколы Равенскага ў Лювэне ў Бэльгіі (1950-1953 гг.).

З Вадзімам Сурком (ад 1946 г. Уладзімер Цьвірка) я знаўся недзе ад 1937 году, зь мірскай польскай пачатковай школы, у якой у часе перапынкаў строга забаранялася гутарыць па-беларуску. Пасьля разам вучыліся ў прагімназіі, і гандлёвай школе ў Баранавічах, разам эвакуаваліся ўлетку 1944 году, ня хочучы выстаўляць сябе на помсту з боку бальшавіцкіх партызанаў, якія забаранялі наведваць сярэднія школы; разам скончылі ў 1947 г. Беларускую гімназію імя Я. Купалы ў Міхэльсфдорфе; разам працавалі ў вугальных шахтах у Ангельшчыне, выдавалі там часапіс «Наперад!»; разам вучыліся ў Лювэнскім унівэрсытэце; разам працавалі ў радыё «Вызваленьне» (цяперашняя «Свабода») у Мюнхэне.

Развіталіся ў 1957 годзе, калі я зь сям'ёй перабраўся ў Нью-Ёрк. Рэдчас перакідаліся лістамі. З усіх, каго я сьніў, мне найбольш сьніўся мой сябра Вадзім-Валодзя. Апошні раз я бачыў яго праездам празь Мюнхэн у 1990 годзе. Зь сябрамі Паўлюком У. і Юркам С. адведалі яго ў шпіталі. Найбольшым шокам для мне было тое, што па даўгіх гадах ростані я яго не пазнаў. Што час і хвароба вырабляюць з намі!..

Валодзя Цьвірка быў здольным чалавекам, меў моцную памяць і задаткі на добрага літаратара. Быў ён галоўным рэдактарам часапісу «Наперад!» (выйшла 26 нумароў, 1948-1953 гг.) пісаў фэльетоны (Архіп Папліска), перадавіцы (У. С.). У гэтых апошніх адлюстраваўся ягоны палкі патрыятызм, бадзёрасьць духу, вера ў перамогу.

На ўнівэрсытэце ў Лювэне, апрача навукі, вялася праца ў хоры Равенскага, у студэнцкім згуртаваньні, у Саюзе Беларусаў Бэльгіі. Усюды Валодзя быў актыўным удзельнікам, гарачым дыспутантам на тэмы палітычнага жыцьця й нацыянальнага вызваленьня. Гэтыя якасьці ідэйнага Беларуса, стойкага абаронцы ідэі незалежнасьці Беларусі ён захаваў да самага канца свайго жыцьця.

Скончыўшы ў 1954 годзе Лювэнскім унівэрсытэт (сацыяльныя навукі), паехаў працаваць журналістам на радыёстанцыі «Вызваленьне» ў Мюнхэне. Супрацоўнічаў у газэце «Бацькаўшчына» (пакуль яна выходзіла да сярэдзіны 1960-х гадоў), узначальваў пэўны час Беларускую рэдакцыю радыё «Свабода», браў удзел у палітычнай дзейнасьці Рады БНР.

Пакнуў па сабе ў глыбокім смутку жонку Эрыку і трое дарослых дзяцей, якім выказваю ад сябе і ўсіх ягоных сяброў у ЗША і Канадзе глыбокае спачуваньне.

Бывай, дарагі Дружа. Няхай Табе будзе пухам гасьцінная нямецкая зямля. Беларусь, думкамі пра якую Ты ўвесь час жыў, будзе спамінаць Цябе добрым цёплым словам.

**Янка Запруднік**

## СЬВ. ПАМ. ОЛЬГА ПЯТРОЎСКАЯ (ХАРЫТОНЧЫК)
### (5.III.1904 — 8.IV.1992)



Прыхаджане беларускай царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай і жыхары гор. Саўт-Рывэру, Н.-Дж., правялі 11 красавіка ў апошні шлях сваю сяброўку сьв. пам. Ольгу Пятроўскую. Нябожчыца О. Харытончык іміграваліа ў Злучаныя Штаты зь Нямеччыны ў 1955 годзе. Жыла ўвесь час у Саўт-Рывэры, дзе працавала на швэйнай хвабрыцы, выйшла замуж за сьв. пам. Мікалая Пятроўскага. Была шчырай прыхаджанкай царквы сьв. Еўфрасіньні, падтрымоўвала беларускае рэлігійнае і грамадзкае жыцьцё.

Абрад пахаваньня выканаў настаяцель царквы сьв. Еўфрасіньні, а. Мячыслаў Брынкевіч, які ў памінальным слове адзначыў глыбокую рэлігійнасьць нябожчыцы сьв. пам. Ольгі Пятроўскай.

На адпявальнай багаслужбе ў царкве было шмат прыхаджанаў, сяброў і знаёмых нябожчыцы, уся сям'я: дочкі Людміла Багун з мужам Іванам, Зіна Юскін з мужам Уладзімірам, Зоя з сынамі Паўлам, Жоржам і Алікам, зяць Янка Запруднік з дочкамі Нінай і Верай. Ціха згаралі сьвечкі ў руках пажылых і маладых людзей. Прыгожа сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам рэгента сп. Мікалая Бандалоўскага.

Адно за адным зьменьваюцца пакаленьні, не мяняецца толькі матыў у канцы кожнага зь іх: «Вечная памяць»...

За супольнымі сталамі памінак а. Мячыслаў, сям'я й прыяцелі яшчэ раз памаліліся за душу памерлай, згадалі яе добрым словам. Успамінам пра сям'ю Юркі Харытончыка падзяліўся сп. Ігар Шчорс. Сп. Мікалай Сіцько адзначыў акуратнасьць наведваньня нябожчыцай багаслужбаў, заклікаў іншых брацЬ зь яе прыклад. Ад імя сям'і сьв. пам. Ольгі Пятроўскай Янка Запруднік падзякаваў усім за ўшанаваньне памяці памерлай, нагадаў, што роля цэмэнтавальніцы сям'і, якую так добра выконвала нябожчыца, ускладаецца цяпер на прадстаўнікоў наступнага пакаленьня.

Вечная памяць дарагой Маме і Бабе Ользе.

**Сям'я**

---

Сьветлай Памяці
## МІХАІЛ СІЛЬВАНОВІЧ

нарадзіўся 7-га кастрычніка 1902 г. у вёсцы Цінцявічы, Вялейскага павету памер 26-га красавіка 1992 г. у Саўт Рывэр, Нью Джэрзі, ЗША, аб чым паведамляе Парахвіяльная рада Парахвіі Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд Парк Н. Дж. і складае Сямі Нябожчыка глыбокае спачуваньне.

**а прат. Васіль Андрэюк**
**настаяцель Парахвіі**
**Парахвіяльная Рада**

## СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ПЁТРА (ПАРФІРЫ) ГАНЭЦКІ

Нарадзіўся 22-га лістапада 1909 г. у Маладэчыне.

Памёр 14 красавіка 1992-га г. у Вэніс, прадмесьці Лёс-Анджэлёс, Каліфорнія.

Сьв. Пам. Пётра Ганэцкі паходзіў з заможнай местачковай сям'і. Пасьля заканчэньня Маладэчынскай польскай гімназіі студ'яваў права на Віленскім унівэрсытэце. У часе Другой Сусьветнай вайны працаваў судзьдзем у горадзе Дзісьне, а пасьля арганізацыі Беларускай Краёвай Абароны быў назначаны камандзерам батальёну. Пераехаўшы да сваіх блізкіх сваякоў у Амэрыку, большую частку жыцьця пражыў у Стемфордзе ў штаце Канэктыкат і толькі ў 1982 г. пераехаў да сваей дачкі Ньюсі ў Каліфорнію. Сьв. Пам. Ганэцкі браў актыўны ўдзел у жыцьці беларускіх арганізацыяў у Нью-Ёрку й Стэмфордзе, а пасьля куплі царкоўнага будынку пры 405 Атлянтык Авэню ў Брукліне, працаваў пры яго аднаўленьні й розных праектах дзейнасьці парахфіі Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Вечная памяць!

**Сябры**

Аддзел БАЗА ў Каліфорніі з сумам паведамляе аб неспадзяванай сьмерці актыўнага шчырага сябра Пётра Ганэцкага. Пасылаем нашыя сардэчныя спачуваньні дачцы Ані Смоклэр, яе мужу й сыну.

У памяць нябожчыка, заміж кветак, прысутныя злажылі ахвяру на газэту «Беларус»: Сп-ва Стус 25 дал., Клава Шэлест 25 дал., Марыя Клішэвіч 20 дал.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка Сп. Б. Даніловіча*

| | | |
|---|---|---|
| С. Гайшун | ам. дал. | 50.00 |
| А. Ліхач | | 50.00 |
| А. Монід | | 50.00 |
| М. Сіцько | | 50.00 |
| О. Грыцук | | 30.00 |
| П. Талмацэвіч | | 30.00 |
| М. Касьцюк | | 30.00 |
| А. Якімовіч | | 30.00 |
| Б. Русак | | 30.00 |
| Я. Велінда | | 25.50 |
| У. Харавец | | 25.00 |
| П. Кулеш | | 25.00 |
| В. Пляскач | | 25.00 |
| В. Сітнік | | 25.00 |
| Т. Шчорс | | 25.00 |
| І. Калоша | | 25.00 |
| А. Губэрт | | 25.00 |
| А. Занковіч | | 25.00 |
| а. К. Стар | | 25.00 |
| А. Стукаліч | | 25.00 |
| А. Кузьміч | | 25.00 |
| В. Каракулька | | 25.00 |
| А. Акавіновіч | | 25.00 |
| Я. Т. Бабіцкі | | 25.00 |
| А. Шурак | | 25.00 |
| а. А. Яноўскі | | 25.00 |
| Л. Паплаўскі | | 20.00 |
| М. Пракопчык | | 17.00 |
| | Разам | 812.50 |

*Ад нашага прадстаўніка ў Заходняй Аўстраліі Марыі Мароз (папраўка з нумару 388 «Беларуса»)*

| | | |
|---|---|---|
| К. Чабатар | | 10.00 |
| А. Бразоўскі | | 50.00 |
| М. Мароз | | 50.00 |
| А. Мароз | | 30.00 |
| Е. Доброўскі | | 25.00 |
| В. Ласкевіч | | 25.00 |
| Е. Ніжнік | | 30.00 |
| М. Раецкі | | 40.00 |
| М. Раецкі, малодшы | | 70.00 |
| Беларускае Аб'еднаньне | | 50.00 |
| | Усяго ам. дал. | 257.57 |
| П. Дарэўскі | аўстр. дал. | 100.00 |
| М. Мігель | | 50.00 |

*Ад нашага прадстаўніка ў Бэльгіі П. Барысіка*

| | | |
|---|---|---|
| А. Арэшка | бэльг. фр. | 1000.00 |
| Р. Занкоўскі | | 1000.00 |
| Л. Клыбік | | 1000.00 |
| З. Смаршчок | | 1000.00 |
| Я. Жучка | | 1000.00 |
| І. Саўка | | 1000.00 |
| Р. Барысік | | 1000.00 |
| | Разам | 7000.00 |

*К. Акула, ад леташняга лістапада выдаў на рассылку «Беларуса» на Бацькаўшчыну 90.00 ам. даляраў.*

*Сабрана на сьвяткаваньні 25-га Сакавіка ў Нью-Джэрзі.*

| | | |
|---|---|---|
| Др. У. Набагез | ам. дал. | 100.00 |
| М. і Н. Рагулі | | 100.00 |
| В. Заморская | | 100.00 |
| У. і А. Русак | | 50.00 |
| А. і Н. Сільвановіч | | 50.00 |
| А. і Л. Дубовік | | 50.00 |
| З. Кіпель | | 40.00 |
| В. і Л. Кажан | | 35.00 |
| Р. Станкевіч | | 30.00 |
| В. Шчэцька | | 25.00 |
| М. В. | | 25.00 |
| Б. Даніловіч | | 25.00 |
| Л. Шурак | | 20.00 |
| С. Дудар | | 20.00 |
| Л. Сапежынскі | | 20.00 |
| Я. Запруднік | | 20.00 |
| А. Шукелойць | | 20.00 |
| Ю. Андрусышын | | 20.00 |
| Ю. Стагановіч | | 20.00 |
| А. Непеін | | 20.00 |
| А. Мацукевіч | | 20.00 |
| А. Субота | | 20.00 |
| М. і К. Верабей | | 20.00 |
| Г. Матысюк | | 10.00 |
| А. Міцкевіч | | 10.00 |
| Л. Стагановіч | | 10.00 |
| Я. Каханоўская | | 10.00 |
| а. В. Андрэюк | | 10.00 |
| П. Кажура | | 10.00 |
| С. Гутырчык | | 10.00 |
| А. Ліхач | | 10.00 |
| М. Каранеўскі | | 10.00 |
| М. Тулейка | | 10.00 |
| Я. Азарка | | 10.00 |
| В. Машанскі | | 5.00 |
| Э. Рыжы | | 1.00 |
| Ананімна | | 1.00 |
| | Разам | 967.00 |

*Ахвяры прысланыя непасрэдна ў Рэдакцыю*

| | | |
|---|---|---|
| Др. У. Набагез | | 100.00 |
| Др. М. Смаршчок | | 100.00 |
| Др. Ю. і Л. Кіпель | | 100.00 |
| М. і В. Махнач | | 50.00 |
| Др. Р. Жук-Грышкевіч | | 40.00 |
| К. і Я. Вініцкі | | 40.00 |
| П. Зыбайла | | 30.00 |
| Н. Касмовіч | | 30.00 |
| Г. Паланевіч | | 25.00 |
| М. і С. Клішэвіч | | 25.00 |
| С. Карніловіч | | 25.00 |
| Л. Шурак | | 25.00 |
| За абвестку пра Выстаўку у Саўт Рывэр | | 25.00 |
| М. Грэбень | | 20.00 |
| | Разам | 635.00 |

Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўнікам шчыры дзякуй!

**Адміністрацыя «Беларуса»**